Са святам вясны і прыгажосці, паважаныя жанчыны!

**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

№10(622) 8 сакавіка 2012 года.

Кошт свабодны.



## Першая жанчына-касманаўт:

### Мае бабулі гаварылі па-беларуску, і я таксама

**Валянціна Церашкова святкуе 75-годдзе.**

Яна здзейсніла свой гістарычны трохдзённы палёт у космас у чэрвені 1963-га. У гонар Церашковай названы кратар на Месяцы і малая планета. Цікава, што яна не хавае сваё беларускае паходжанне, прызнаецца, што ў дзяцінстве гаварыла па-беларуску.

«Мая мама родам з вёскі Ерамееўшчына цяперашняга Дубровенскага раёна, а тата – з-пад Магілёва, — распавядае Церашкова. – Бацькі выехалі ў Цэнтральную Расію ў пачатку XX стагоддзя, бо дома не маглі пракарміцца.

Усе мае бабулі гаварылі па-беларуску, спявалі беларускія песні. З мяне самой у Яраслаўлі пасмейваліся, калі замест «открой дверь» гаварыла «адчыні дзверы».

*Еўрарадыё*



**Жанна Нарыцына, культработнік, спявачка.** *Фота Я. Самсонава.*



**Навінкі ад «Віцязя»**

Пастаўскі раён

# Тэлевізары сучасных марак

■ Кастусь Александровіч

**За 35 гадоў сваёй дзейнасці завод радыёкампанентаў “Беліт”, які знаходзіцца ў Паставах, чаго толькі не перажыў.**

У савецкі час за яго камплектуючымі для тэлепрыёмнікаў прыляталі нават на самалётах з тэлезаводаў той вялізнай краіны. Год назад адно з падраздзяленняў холдынга “Гарызонт” балансавала на мяжы банкротства, але сітуацыя змянілася ў лепшы бок з прыходам новага энергічнага дырэктара Яўгена Захно з вопытам працы на расійскім рынку. Тут выпрацавалі іншую стратэгію дзейнасці, сталі выконваць новыя заказы і пачалі тэхнічнае пераўзбраенне. Па меры абнаўлення і амаладжэння калектыву летась аб’ёмы вытворчасці павялічылі амаль у 4 разы, з канвеераў сталі выходзіць айчынныя тэлевізары “Гарызонт” і вядомай японскай маркі “Акаі”. У гэтым годзе на заводзе рыхтуюцца на ўжо зманціраванай новай вытворчай лініі пачаць выпускаць сучасныя лічбавыя LCD-тэлевізары. Пастаўчане яшчэ летась выйшлі на станоўчае сальда знешняга гандлю, сваю тэхніку DVD-прайгравальнікі,СВЧ-печы, фены, пыласосы, прасы сталі адгружаць у Расію, Казахстан, Украіну. Таксама завод пачаў зноў прымаць на працу людзей, а раней толькі скарачаў і звальняў. Цяпер на прадпрыемстве працуюць 230 чалавек, канвеер дзейнічае ў 2 змены. Завод у райцэнтры выпускае і тратуарную плітку, тэхнічныя салфеткі, рознае абсталяванне для ферм і нават аўтамабільныя прычэпы. Да канца года холдынг “Гарызонт” выпусціць 91 тысячу тэлевізараў сучаснага пакалення і нямала з іх будзе пастаўскай зборкі.



Полацкі раён

# АПІ – надзейны вартаўнік

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам усё больш суайчыннікаў для абароны свайго жылля ад агню набываюць аўтаномныя пажарныя апавяшчальнікі, якія аператыўна рэагуюць на з’яўленне самага першага дыму ў будынку.**

Аналагічны прыбор па гэтай прычыне адразу спрацаваў нядаўна ў выхадны дзень, і трывожна запішчала сігналізацыя ў інтэрнаце Полацкага педкаледжа, аднаго са структурных падраздзяленняў Віцебскага дзяржуніверсітэта імя Машэрава. Калі пажарныя прыбылі сюды па выкліку, практычна ўвесь другі паверх быў запоўнены едкім чорным дымам. Неўзабаве было ўстаноўлена, што да інцыдэнту прывяло кароткае замыканне пускавога рэле на студэнцкай кухні. У той выхадны дзень навучэнцаў у пакоях днём было мала, многія раз’ехаліся па дамах. Аднак 15 юнакоў і дзяўчат прыйшлося эвакуіраваць на вуліцу, ніхто з іх не пацярпеў. Работнікі інтэрната дзейнічалі ўмела і самі адключылі няспраўнае рэле, не далі полымю разгуляцца. Праўда, невялікі касметычны рамонт на кухні ўсё ж патрабуецца. А вось іншую падобную праблему ў старажытным горадзе вырашыць няпроста, бо на перапоўненай звалцы – гарадскім палігоне бытавых адыходаў плошчай 7 гектараў часта бываюць узгаранні. Яго патрэбна было закрыць яшчэ 7 гадоў назад, і нават зімой сёлета ён дыміў. Яшчэ горшая сітуацыя бывае летам, частыя ўзгаранні і едкі дым усім надакучылі, бо адыходаў каля 2 млн. тон і ў вышыню яны дасягнулі ўжо 13 метраў.

Мёрскі раён

# Балотам патрэбна абарона

■ Станіслаў Раманчук

**Унікальным, не закранутым цывілізацыяй запаведным краем застаецца ў Беларусі Мёрскі раён, больш 32 тысяч гектараў якога займаюць балоты.**

Мясцовы ландшафтны гідралагічны заказнік “Ельня” з самым вялікім у Еўропе верхавым балотам з узростам больш 9 тысяч гадоў стаў прыродаахоўнай тэрыторыяй нацыянальнага значэння. Тут упершыню ў краіне забаранілі паляванне на водаплаваючых птушак, плануецца на азёрах забараніць і рыбную лоўлю. Сёлета ў гэтай мясцовасці пачаўся ажыццяўляцца новы праект Праграмы развіцця ААН у Беларусі па прыродаахоўнай тэматыцы. Для кантролю грунтовых вод будзе закуплена і ўстаноўлена неўзабаве дадатковае абсталяванне да 37 месцаў назірання. Раней спецыялісты і аматары прыроды пры падтрымцы меліяратараў пабудавалі 40 плацін для захавання і павышэння ўзроўню вады. З’явіцца ў заказніку і новыя экацэнтры і экалагічныя сцяжынкі. З надыходам вясны тут чакаюць прылёту з выраю амаль 4 тысяч жураўоў. Толькі ў гэтай мясцовасці можна ўбачыць рэдкі прыродны цуд, калі гэтыя грацыёзныя птушкі ўстрайваюць свае шлюбныя танцы дзіўнай прыгажосці. Таксама нікога не пакіне раўнадушным знаёмства з 11 відамі раслін з Чырвонай кнігі, рэшткамі пасляледніковай тундры з карлікавымі бярозкамі і морам журавін.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 08.03.12 | | | | Пятніца 09.03.12 | | | | Субота 10.03.12 | | | | Нядзеля 11.03.12 | | | | Пнд. 12.03.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -7 | -8 | -4 | -4 | -6 | -6 | 0 | 0 | -2 | -2 | +1 | +3 | +1 | -1 | +2 | +1 | -1 | 0 | +2 |
| Ціск | 755 | 754 | 755 | 756 | 758 | 757 | 758 | 756 | 756 | 751 | 749 | 746 | 744 | 741 | 742 | 743 | 743 | 738 | 740 |
| Вільготнасць | 72 | 71 | 59 | 66 | 77 | 72 | 57 | 71 | 88 | 92 | 94 | 91 | 95 | 95 | 89 | 78 | 81 | 94 | 88 |
| Вецер м/сек | 2 Ю | 2 Ю-В | 2 Ю | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю | 5 Ю-З | 5 Ю-З | 6 Ю-З | 7 Ю-З | 8 Ю-З | 6 З | 7 З | 6 З | 7 С-З | 5 С-З | 4 З | 6 С-З | 8 С |

# Лічба нумара

**13** – столькі нацыянальных каманд, як адзначалася днямі на пашыранай калегіі Міністэрства спорту і турызму Беларусі, не выканалі пакуль даведзеных заданняў па заваяванні ліцэнзій для ўдзелу летам у Алімпійскіх гульнях у Лондане. А да гэтых галоўных стартаў чалавецтва заставалася ўжо меней паўгода, заяўкі на акрэдытацыю на Алімпіядзе-2012 могуць падаваць толькі члены зборных па 6 відах спорту. Калі гэта не правал, то пэўны трывожны званочак для беларускіх алімпійцаў ужо прагучаў.

Справа ў тым, што ў нас і не збіраюцца адмаўляцца ад агучанай кіраўніком краіны задачы - заваяванне 25 алімпійскіх узнагарод, з якіх 5 павінны быць залатыя медалі. Аднак пакуль справа ідзе да таго, што выйдзе, як з раней агучанымі намерамі летась намалаціць 10 млн. тон збожжа (на практыцы - добра, калі выйшла без прыпісак мільёнаў 8). Праўда, напрыканцы лютага беларускі спорт меў 105 алімпійскіх ліцэнзій. У англійскай сталіцы беларусы будуць прадстаўлены нават у 19 відах спорту, але, напрыклад, у спартыўнай гімнастыцы поўны правал, на гульнях выступіць толькі адзін наш гімнаст.

Зрэшты, хоць у галіновым міністэрстве і ў НАК Беларусі захоўваюць стрыманы аптымізм, але спецыялісты ведаюць, што ў Лондане цудаў можа і не быць, як 4 гады назад на пакуль самых паспяховых спаборніцтвах айчынных алімпійцаў у Пекіне (адтуль на радзіму прывезлі 19 узнагарод, сярод іх 4 - залатыя). Справа ў тым, што ў мінулым годзе нашы атлеты ў алімпійскіх дысцыплінах на чэмпіянатах свету і Еўропы заваявалі толькі 15 медалёў (4 – “залата”). Іншыя краіны свету публічна не заяўляюць, у адрозненне ад беларусаў, аб сваіх медальных амбіцыях.

І гэта правільна, бо спорт вышэйшых дасягненняў не прымае такога вось калгаснага планавання і заданняў атлетам, іх трэнерам на якое месца скокнуць, або з якім лікам абыграць саперніка. Да таго ж Алімпіяда – гэта старты чатырохгоддзя з асаблівай атмасферай і з яшчэ большай канкурэнцыяй. Да іх лепшых спартсменаў трэба падводзіць у спакойнай псіхалагічнай абстаноўцы. А ў нас праводзяцца розныя атэстацыі, сходы, прымаюцца планы-заданні, ад чаго потым выплочваецца зарплата, так званыя алімпійскія стыпендыі (ад 8 млн. рублёў і болей у месяц).

На дадзены момант таксама дрэнныя папярэднія вынікі адбору на чарговыя Алімпійскія гульні на самыя медальныя нашы віды – лёгкая атлетыка, акадэмічнае веславанне і кулявая стральба. Сапраўдны правал з пападаннем у Лондан адбыўся ў спартыўнай гімнастыцы, у скачках у ваду, туды не прабіліся зборныя Беларусі па баскетболе і гандболе. Канешне, часу яшчэ ёсць і ў бліжэйшыя месяцы будзе вядома, ці патрапілі на летнюю Алімпіяду яшчэ 75 беларускіх суператлетаў у 8 відах спорту.

Спартыўнае кіраўніцтва разлічвае, што нацыянальная зборная будзе налічваць усяго 180 алімпійцаў. Але на практыцы можа быць і меней, бо цяжка будзе выканаць задачу зборнай па хакеі на траве, у сінхронным плаванні, конным спорце, тэнісе. І ўвогуле жыццё ў спорце такое непрадказальнае. Вось наша прыгажуня, першая ракетка свету Вікторыя Азаранка з-за болю ў спіне не змагла падтрымаць жаночую зборную РБ, адмовілася ад удзелу ў прэстыжным тэнісным турніры ў Дубаі.

Спадзявацца можна і на іншых лепшых беларускіх спартсменаў, якія прэтэндуюць на ўзнагароды. Аднак, вырашаючы лонданскія задачы і ні ў чым не адмаўляючы зоркам, варта думаць і пра заўтрашні дзень, падрыхтоўку рэзерва, трэнерскія кадры і павышэнне заробкаў маладым трэнерам ДЮСШ і СДЮШАР, якія пакуль мізерныя. Колькасць насельніцтва і школьнікаў, якія б у Беларусі рэгулярна займаліся фізкультурай і спортам, пакуль невялікая, меней 20 % у лепшым выпадку. У нас застаюцца пэўныя праблемы з набыццём сучаснай і дарагакаштуючай экіпіроўкі і спортінвентару нават для самых моцных спартсменаў.

Час ляціць хутка. Да галоўных стартаў у Лондане ўсё бліжэй, і будзем спадзявацца, што наша краіна на Алімпіядзе пацвердзіць свае права ўваходзіць у лік 20 лепшых спартыўных дзяржаў свету. Мы будзем “хварэць” за беларусаў на лонданскіх арэнах і толькі радавацца іх яркім і пераканаўчым выступленням, якія пацвердзяць сілу, прыгажосць нацыі, бо вялікай самааддачы і працавітасці беларусам ніколі не бракавала ў жыцці.

## Дзень за днём

**МВФ вырашыў адклікаць з Беларусі ў красавіку свайго пастаяннага прадстаўніка і не прысылаць новага. Нават у беларускай сталіцы ўжо чвэрць жылога фонду патрабуе тэрміновага капітальнага рамонту. На гэтым фоне у краіне быццам замарозілі рост тарыфаў ЖКГ, ён будзе паступовым. Год пачаўся трывожна для айчыннага дробнага бізнесу, бо толькі ў студзені колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў скарацілася на 9 %, а інфляцыя склала ўжо 2,8 %. Нават федэрацыя прафсаюзаў занепакоілася нізкімі заробкамі працоўных, у 67 % іх яны ніжэй сярэднямесячных па Беларусі (2,8 млн. рублёў).**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Дырэктар дэпартамента ЕС Гуннар Віганд пацвердзіў, што ў Мінску МЗС Беларусі паабяцаў рэформу існуючай палітычнай сістэмы РБ пасля парламенцкіх выбараў.

**Грэцыя.** Пасля 12 гадзін напружаных перамоў ЕС узгадніў праграму фінансавай дапамогі краіне ў суме 130 млрд. еўра, але грэкам трэба звольніць 15 тыс. чалавек, знізіць заробкі.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама ўнёс у кангрэс праект дзяржбюджэту з расходамі 3,8 трлн. $ і дэфіцытам 0,9 трлн. $, прапанаваў павысіць стыпендыі студэнтам і падаткі на багатых.

**Польшча.** Услед за Чэхіяй урад краіны пад ціскам пратэстаў палякаў прыпыніў ратыфікацыю скандальнага міжнароднага пагаднення па барацьбе з піратствам у Інтэрнэце.

**Кітай.** Урад краіны прыняў праграму павышэння даходаў насельніцтва, штогод да 2015 мінімальныя заробкі павінны павышацца не меней чым на 13 % з цяперашніх 240 USD.

**Францыя.** Прэзідэнт Нікаля Сарказі аб’явіў аб намеры балатавацца ў красавіку на 2-гі тэрмін, зараз па сацапытаннях ён адстае на 5-8 % ад канкурэнта-сацыяліста Ф. Алянда.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес назваў адзінага кандыдата ад апазіцыі, губернатара штата Энрыке Каприлеса “подлай свіннёй”, паабяцаў “сцерці ў парашок” на выбарах восенню.

**Іран.** Ісламскі ўрад рашыўся на спыненне паставак нафты кампаніям Францыі і Англіі, аднак яго пастаўкі ў ЕС складаюць толькі 18 %, аб’ёмы забяспечыць Саудаўская Аравія.

**Германія.** Прэзідэнт ФРГ К. Фульф пайшоў у адстаўку, калі ў грамадства ўзніклі сумненні ў ягонай сумленнасці, так паступіў і яго папярэднік на пасадзе, калі дапусціў брыдкаслоўе.

**КНДР.** Улады напоўгаладнай і самай закрытай краіны свету прысвоілі воінскае званне генералісімуса пасмяротна Кім Чэн Іру, яго першы гіганцкі помнік з’явіўся ў сталіцы.

**Латвія.** Пры рэкорднай яўцы амаль 75 % грамадзян краіны выказаліся на рэферэндуме супраць дзяржаўнага статусу рускай мовы, што выклікала раздражненне МЗС Расіі.

**Лівія.** Любімая журналістка Кадафі Галя аль-Місраці павіншавала ўсіх з гадавінай паўстання, адвергла чуткі аб сваім забойстве, раней тэлеканалы РБ адрэзалі ёй язык.

**Германія.** Улады краіны падтрымалі санкцыі ЕС да РБ, забаранілі фірме Lapua адгрузку фінскіх патронаў для зборнай Беларусі па біятлоне напярэдадні чэмпіянату свету.

**Расія.** Нацыянальнае аб’яднанне вытворцаў “Саюзмалако” прапанавала зноў спыніць пастаўкі з Беларусі больш таннага сухога натуральнага малака і сухой малочнай сыроваткі.

**Іран.** Сын сусветна вядомага амерыканскага кінарэжысёра, тройчы лаўрэата прэміі “Оскар” Алівера Стоўна Крыстофер прыняў тут іслам і абраў сабе новае імя Алі.

# Банкіры прагназуюць стабілізацыю працэнтных ставак па крэдытах і дэпазітах да лета-восені



■ **БелаПАН**

**Банкіры прагназуюць стабілізацыю працэнтных ставак па крэдытах і дэпазітах да лета-восені**

ЗАТ «МТБанк» прагназуе паступовае зніжэнне і стабілізацыю да лета-восені 2012 года працэнтных ставак па крэдытах і дэпазітах. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні праўлення банка Ігар Бычак 29 лютага на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Намеснік старшыні праўлення «МТБанка» таксама адзначыў, што летась ва ўмовах дэвальвацыі і страты даходаў людзі дзякуючы вельмі высокім стаўкам па дэпазітах змаглі часткова кампенсаваць уласныя фінансавыя страты. З іншага боку, крэдыты таксама выдаваліся пад вельмі высокія працэнты. «У сувязі з гэтым мы вельмі спадзяемся, што гэты перыяд высокіх ставак скончыўся, і мы прагназуем да лета ці восені гэтага года вяртанне працэнтных ставак да чалавечага выгляду», — сказаў Бычак.

Паводле яго слоў, тэндэнцыя планамернага зніжэння ставак будзе працягвацца. Нацыянальны банк зніжае стаўку рэфінансавання для падтрымкі ліквіднасці банкаў, пасля чаго банкі пачынаюць зніжаць стаўкі па дэпазітах і крэдытныя стаўкі.

Разам з іншымі банкамі «МТБанк» праводзіць палітыку планамернага зніжэння ставак. «Зніжана стаўка рэфінансавання, і банк прыняў рашэнне аб парытэтным зніжэнні ставак па ўсіх крэдытах на 5–10 працэнтных пунктаў. У той жа час па дэпазітах стаўка таксама будзе зніжацца», — адзначыў Бычак.

Сёлета Нацбанк ужо зніжаў стаўку рэфінансавання: 15 лютага на 2 працэнтныя пункты — да 43% гадавых, а 1 сакавіка яна знізілася яшчэ на 5 працэнтных пунктаў — да 38% гадавых.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Баранавічы.** Глава прэзідэнцкай Адміністрацыі У. Макей паабяцаў тут на сустрэчы з рабочымі, што беларуская эканоміка выйдзе на дакрызісны ўзровень праз 1,5 года.

**Мінск.** Міністр эканомікі Беларусі М. Снапкоў заявіў, што з традыцыйных галін індустрыі мяркуецца да 2015 года звольніць 280 тысяч работнікаў, з якіх канкрэтна - не назваў.

**Астравец.** Ужо летам, як паведаміў першы віцэ-прэм’ер У. Сямашка, на пляцоўцы АЭС пачнуцца земляныя работы, а ў верасні – бетонныя, як кошт будзе 10,5 млрд. долараў.

**Гродна.** Даўгі мясцовых органаў улады дасягнулі ўжо 80 % даходнай часткі бюджэту вобласці, аналагічныя праблемы ўзніклі і ў Брэсцкай, Магілёўскай абласцях (15,3 трлн).

**Краснаполле.** З трэскам праваліўся эксперымент, калі ў 2008 годзе ў раёне стварылі адзін калгас, яго даўгі цяпер каля 70 млрд. рублёў, неўзабаве з’явяцца 2-3 гаспадаркі замест яго.

**Барысаў.** Журналіста радыё “Рацыя” А. Ярашэвіча 2,5 гадзіны пратрымалі ў міліцыі падчас падрыхтоўкі рэпартажу аб настроях рабочых БАТЭ, ім паабяцалі падняць заробкі.

**Мінск.** Нязменная старшыня Цэнтрвыбаркама РБ Лідзія Ярмошына заявіла па радыё, што ніякай неабходнасці цяпер змяняць існуючае заканадаўства аб выбарах у Беларусі няма.

**Бабруйск.** Праз газетную аб’яву аб масажы аператыўнікі выявілі “бардэль” на гарадской кватэры, дзе 36-гадовая гаспадыня займалася прастытуцыяй са згоды свайго мужа.

**Мінск.** У тэставым рэжыме пачынае вяшчанне цалкам беларускамоўны тэлеканал “Беларусь-3”, восенню яго пачнуць трансліраваць усе кабельныя аператары краіны.

**Магілёў.** З дапамогай адміністрацыйнага рэсурсу ад Беларусі на “Еўрабачанне-2012” ледзь не паехала Алена Ланская, ёй прагназавалі чарговы правал беларусам у маі ў Баку.

**Шклоў.** Новы маласямейны інтэрнат папяровай фабрыкі “Спартак” трапіў у лік 303 самых значных аб’ектаў дзяржінвестпраграмы на 2012 год.

**Баранавічы.** З гарадской бальніцы ледзь не звольнілі з працы санітарку за тое, што яна пусціла журналіста сфатаграфаваць прамерзлую палату, навіна пра люты холад абляцела РБ.

**Мінск.** Нацыянальная авіякампанія “Белавія” падпісала кантракт з фірмай Embraer (Бразілія) на пастаўку сёлета яшчэ 2 рэактыўных самалётаў, яе парк налічвае 17 лайнераў.

**Брэст.** У адрозненне ад праваслаўных радыкалаў Магілёва і Гомеля мясцовая епархія БПЦ не стала перашкаджаць паказу ў горадзе рок-оперы “Ісус Хрыстос – суперзорка”.

**Мінск.** Прэс-служба Белтэлерадыёкампаніі пацвердзіла, што не плануецца спыняць трансляцыю “НТБ”, але не вырашана, як распаўсюджваць беларускамоўны канал “Беларусь-3”.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** ААТ “Нафтан” нарэшце выйшла на станоўчую рэнтабельнасць працы, рост экспартных паставак у параўнанні з 2010 г. склаў 2,3 разы, але 50 % акцый пад залогам.

**Віцебск.** Граніцы свабоднай эканамічнай зоны “Віцебск” вырашана сёлета пашырыць яшчэ на 80 гектараў за кошт двух новых пляцовак у абласным цэнтры і ў Оршы.

**Глыбокае.** Глава вобласці А. Косінец вырашыў скараціць выдаткі на падрыхтоўку тут аб’ектаў да Дня беларускага пісьменства і адмовіцца ад ўзвядзення гарадскога амфітэатра.

**Чашнікі.** Мінскі 18-гадовы студэнт не справіўся ў райцэнтры з упраўленнем аўто і наехаў на двух пешаходаў, жыхароў вёскі Альшанка, адзін з іх памёр у бальніцы, другі паранены.

**Віцебск.** Абласны суд у закрытым працэсе накіраваў на 3 гады ў калонію-пасяленне эксупрацоўніка УУС аблвыканкама Р. Сініцына, які не ўзяў адбіткі пальцаў у Д. Канавалава.

**Паставы.** Пры росце прамысловай вытворчасці па раёну амаль у 2 разы ў параўнанні з 2010 годам заробкі ў 26 прадпрыемстваў, арганізацый, калгасаў меней 200 $ у месяц.

**Орша.** Амаль 50 работнікаў мясцовых электрасетак напісалі заявы ў знак пратэсту аб выхадзе з прафсаюзу пасля нявыплат ім студзеньскіх даплат за шкодныя ўмовы працы.

**Верхнядзвінск.** Сваю прэмію 10 млн. рублёў за званне “Чалавек года Віцебшчыны” дырэктар ААТ “Прудзінкі” Васіль Краснік перадаў дзіцячаму прытулку пад Віцебскам.

**Гарадок.** Суд прызначыў 5 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці начальніцу вясковай пошты, якая за 6 гадоў прысвоіла больш 70 млн. рублёў банкаўскіх укладаў землякоў.

**Віцебск.** Пасол Польшчы ў Беларусі Лешэк Шарыпка перадаў абласному дыягнастычнаму цэнтру медабсталяванне на 42 тысячы еўра для лячэння людзей, якія дрэнна чуюць.

**Ушачы.** Суд пакараў жыхара Полацка пазбаўленнем волі на 2 гады за незаконную здабычу летась восенню на возеры Бельскае ў гідракасцюме 201 вузкапалага рака.

**Глыбокае.** У выніку ДТЗ вечарам трагічна загінула 19-гадовая студэнтка медуніверсітэта з вёскі Кішы, з кіраваннем іншамаркі не справіўся 21-гадовы жыхар гарпасёлка Падсвілле.

**Браслаў.** Пры поўным аншлагу ў раённым Доме культуры прайшло рамантычнае шоу “Каханне з першага позірку”, лепшай пары дастаўся прыз – новае спатканне ў рэстаране.

**Мёры.** Мясцовы РАУС распачаў справу па артыкулу “знікненне чалавека”, бо 1 студзеня з навагодняй дыскатэкі не вярнуўся дамоў 17-гадовы цясляр мясцовай ПМК Уладзімір Д.

**Полацк.** Лабараторыя РЦГі Э пацвердзіла, што рысь, якая напала на вартаўніка ў горадзе, загрызла яго сабаку, была хворая, шалёнага звера застрэлілі супрацоўнікі міліцыі.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

**Не можа быць апраўдана няроўнасць, акрамя той, якая створаная прыродай у выглядзе адрознення паміж асобнымі людзьмі.**

*А.Бебель.*



■ **Фадзей Шымуковіч,**
*краязнаўца,*
*г. Дзісна.*

*Да Дня 8 Сакавіка*

# Вартаўнікі духоўнасці і захавальнікі дамашняга ачага

Што рабіць, калі нельга ўдзельнічаць у палітычным жыцці краіны (няма права голасу), нельга вучыцца (не прымаюць ва ўніверсітэт), нельга працаваць (інакш як гувернанткай)? І калі ўсе навокал кажуць аб асаблівай ролі жанчыны як вартаўніцы духоўнасці і захавальніцы дамашняга ачага? Праблемы, якія вякамі хвалявалі беларускіх жанчын.

Беларусь пачатку XX ст. была ўсяго толькі Заходняй губерніяй Расійскай Імперыі – Паўночна-Заходнім краем. Гістарычна склалася так, што, згубіўшы дзяржаўную незалежнасць некалькі вякоў назад, беларусы ператварыліся ў "крестьянскую" (мужыцкую) нацыю, у той час, як арыстакратыя пераймала мову, культуру і веру дамінуючай нацыі – польскай альбо рускай. Аб гэтым сведчыць перапіс 1897г., у сельскай мясцовасці жыхары, якія назвалі сваёй роднай мовай беларускую, складалі ў розных губерніях ад 70 да 95% насельніцтва, у той час як у гарадах іх пражывала 10-15%. Ад 38 да 60% жыхароў горада складалі яўрэі (згодна расійскім законам, яны не мелі права валодаць зямлёй), якія размаўлялі на мове ідыш. Далей найбольшымі гарадскімі групамі былі палякі і рускія. Магілёў – адзіны горад, дзе этнічныя беларусы складалі 30% ад усіх гараджан. Этнічная прыналежнасць вызначалася па мове паўсядзённых зносін.

Беларусы, якія пражывалі ў сельскай мясцовасці, сацыяльна з'яўляліся альбо сялянствам, альбо дробнай шляхтай (т.зв. аднадворцы). Сялянскія жанчыны былі занятыя сельскагаспадарчай працай. Пры гэтым этнографы і фалькларысты канстатуюць, што жанчына была перш за ўсё актыўным удзельнікам вытворчасці, партнёрам у працоўным працэсе. У адрозненне ад прадстаўніц іншых класаў як сялянка, так і дробная шляхцянка, сумяшчалі сямейныя і вытворчыя ролі. Яна часта нараджала (сем'і былі шматдзетнымі, часам да 10, а то й больш дзяцей), сама даглядала дзяцей, вяла дамашнюю гаспадарку, а сялянка яшчэ працавала і ў полі, г.зн. выконвала функцыі, дадзеныя жанчыне прыродай. Пры гэтым нярэдка ў сем'ях дробнай шляхты, г.зн. абяднеўшага дваранства, менавіта жанчына была асноўным карміцелем, яна не толькі поўнасцю забяспечвала сям'ю прадуктамі, якія



**Элаіза Пашкевіч (Цётка)**

выраблены ў гаспадарцы, і апранала ў вытканае дамашняе палатно, але і выраблялa іх на продаж. Пастаянна даводзілася падпрацоўваць, асабліва ў час збору ўраджаю ў багатых і паноў. Жанчына ніколі не ведала ні выхадных, ні тым больш адпачынкаў. Нават у свята была вымушана рыхтаваць абеды і даглядаць скаціну.

Невыносная нагрузка прыводзіла да высокай смяротнасці і малой прадаўжальнасці жыцця. Аднак, дзякуючы свайму працоўнаму ўдзелу, жанчын паважалі як у сям'і, так і ў сельскай абшчыне і яны валодалі адноснай свабодай. Гістарычна большай, чым жанчыны Масковіі, так як іх правы вызначаліся Статутам Вялікага Княства Літоўскага, – больш прагрэсіўнага зводу законаў, чым Дамастрой. Разам з тым, сялянскае грамадства характарызавалася патрыярхальнымі традыцыямі ў размеркаванні ўлады і дамініруючых каштоўнасцяў. Альтэрнатыўная ролевая мадэль сям'і, дзе жанчына не мела вытворчай функцыі і з'яўлялася толькі жонкай і маткай, хоць пры распадзе сям'і яна не мела права на дзяцей, дзеці заставаліся з бацькам. Роля жонкі і маці лічылася яе выключным прыродным прызначэннем. У Беларусі, дзе ролю дробнай буржуазіі часта адыгрывала гарадское яўрэйскае насельніцтва, гэта мадэль прадстаўляла буржуазны ідэал, але не магла быць перанята іншымі слаямі насельніцтва.

Шматгадовая залежнасць Беларусі ад Польшчы і Расіі суправаджалася нацыянальнай дыскрымінацыяй, забаронай на выкарыстанне беларускай мовы ў навучанні і справаводстве, высокім узроўнем непісьменнасці насельніцтва і асабліва жанчын, заняпадам нацыянальнай гісторыі і культуры. Жаночы рух Беларусі XX ст. нараджаўся ў кантэксце барацьбы за нацыянальнае вызваленне, а папярэднікам яго стала нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863-1864гг у Польшчы, Беларусі і Літве, якое было бязлітасна задушана царскім урадам. У Варшаве расстрэльваліся грамадскія дэманстрацыі, і мінчанка Каміла Мартынкевіч, каля якой згрупаваліся некалькі інтэлігентак, арганізавала маніфестацыі жанчын у нацыянальных строях, з жалобнымі песнямі ў знак смутку аб загінуўшых. Яна ж разгарнула дабрачынную дзейнасць для арыштаваных удзельнікаў паўстання, якія ішлі па этапу ў Сібір.

Першая ў Мінску жаночая арганізацыя, Камітэт па ахове правоў жанчын, якая ўзнікла ў 1901 годзе па ініцыятыве графа Э. Чапскага, аб'ядднала прадстаўнікоў ліберальнай інтэлігенцыі і ставіла мэтай сеяць еўрапейскую культуру і адукацыю сярод жанчын, не адыграла значнай ролі ў беларускай гісторыі. Эпоха нацыянальнага адраджэння паставіла мэту легалізацыі беларускай мовы і культуры і жанчыны, якія ўдзельнічалі ў руху, былі натхнёныя нацыянальнай ідэяй. Цётка, Паліна Мядзёлка, Канстанцыя Буйло, Зоська Верас, Надзея Шнаркевіч, Апалонія Радкевіч, Палута і Марыя Бадуновы, Апалонія Герконт і і іншыя лічылі сваім абавязкам не толькі змагацца за свабодную жанчыну, але і абудзаць Беларусь. Уклад гэтых жанчын у справу абуджэння нацыянальнай самасвядомасці не прапарцыянальны іх ліку, невялікай колькасці. Яны адчынялі першыя беларускія школы, класы і чытальні, пісалі вершы для дзяцей на роднай мове, арганізоўвалі гурткі і хоры (гэта было пачаткам беларускага тэатра), ставілі перад сабой дабрачынныя і адукацыйныя мэты, г.зн., як бы пераносілі "абавязкі маці" ў сферу грамадскага жыцця. Яны марылі абудзіць жанчыну-беларуску для выхавання ў новых пакаленняў нацыянальнай годнасці, цвёрдай волі, рашучасці змагацца за вызваленне з-пад чужога ярма. Вось што пісала **Цётка** "Вясковым кабетам" у газеце *"Наша Ніва" №2 18(31) студзеня 1908г.*

Ой, сястронкі, ой, вясковы,
Ой, вы кветкі прызавяты!
Вашы твары, як васковы,
Вашы шчокі слязьмі змяты…
Як каліну град страсае,
Як пярун каменьне крышыць,
Так лёс рана вас ламае,
Так жыццё красу вам нішчыць.
Сколькі болю ў вачах хмурных,
Сколькі скаргі з губ збялелых,
Сколькі срэбра ў косах густых,
Сколькі поту з рук абмлелых…
А за гэта вам дзве дошкі
I крыж з хвоек ледзьве збіты,
I ў памяць плачуць дочкі,
Бо-й яны, як вы, забыты.
Ой, кабеты, ой, вясковы,
Ой, вы кветкі прызавяты!
Ой, лілейкі вы без мовы,
Ой, вы птушкі безскрыдлатыя!

*"Наша Ніва" №13 20 чэрвеня 1908г. Юзя Шчупак.*

Весела, сьмела
Мы пойдзем у даль;
За добрае дзела
Мы станем, як сталь!
Ня будзем смуціцца, -
Што з смутку чакаць? –
Вось лепш нам пусьціцца
Ды шчасьця шукаць.
Хоць доля нас злая
Прыцісьне, як вуж,
Хоць сіл не хапае,
Хоць кожны нядуж, -
Гэй, братцы, з ахвотай
Старайцеся збыць
Ланцуг вы цямноты,
Што вочы нам цьміць!..

*"Наша Ніва" №25 4(17) грудня 1908г. Юзя Шчупак*

Як гляджу на свой край,
Дык аж сэрца баліць!
Пуста ніва, - ураджай,
Як тут жыць, як пражыць?
Дарма гіне дабро,
К ліху праца ідзе;
Сей, чэкай – не ўзышло,
А ўзышло – не цьвяце…
Час надойдзе жніва, -
Што тут жаці, збіраць?
Прышла восень, зіма,–
За што рукі заццяць?
Гэй, зьміяся жыццё!
Родны край, збагацей!
Непрыветнае ўсё
Ветрам вольным развей!



**Людвіка Сівіцкая-Войцік (Зоська Верас)**

Хай загосьціць пара,
Якой жджэш доўгі час;
Волі, свету, дабра
Хай прыбудзе ў нас!
Хай нарэшце людзьмі
Пасьля мук зажывём,
Песьню ўсімі грудзьмі
Пасьля слёз запяём!..

*Заўвага! У вершах захавана тая арфаграфія, што ў першакрыніцы.*

У 1917 г., прарасійскія чарнасоценныяарганізацыі склікалі настаўніцкі сход, дзе выступалі супраць нацыянальнай беларускай школы, з усіх удзельнікаў сходу, а там былі і свядомыя беларусы-мужчыны, устала і пад гул і топат абараняла свой народ толькі Ванда Лявіцкая.

Першая сусветная вайна, якая пачалася, суправаджалася не толькі масавым адыходам мужчын на фронт, але і разгортваннем баявых дзеянняў на тэрыторыі Беларусі. 1.5 млн. чалавек сталі бежанцамі. У верасні 1915 года толькі ў г. Дзісну павінныбыліэвакуіравацца генерал-губернатарства са сваім штатам з Гродна, Коўна, Вільні, а таксама Віленская епархія на чале з архіепіскапам Ціханам і ўсім епархіяльным Клірам. Насельніцтва Дзісны дасягнула 15 тыс. жыхароў. Створанае ў 1916 годзе па ініцыятыве Зоські Верас Мінскае аддзяленне таварыства дапамогі ахвярам вайны, узялося за арганізацыю кааператыўных майстэрняў, дзе жанчыны-бежанкі маглі б атрымаць работу швачкі. Але, напэўна, першая нацыянальная жаночая арганізацыя была створана ў Вільні ў 1916 годзе Элаізай Пашкевіч (Цёткай) для дапамогі бедным дзецям. У гэты час у Вільні працавала шэсць беларускіх школ і Цётка арганізавала для дзяцей бясплатныя абеды.

1917 год стаў пераломным у гісторыі. Лютаўская рэвалюцыя дала жанчынам Расіі выбарчае права, але прыход бальшавікоў да ўлады паклаў канец усім грамадскім, у тым ліку жаночым, ініцыятывам у Беларусі. Яны ўзнавіліся і кароткі час дзейнічалі да ўтварэння БССР у 1918 годзе, у час Беларускай Народнай рэспублікі, калі вядомая эсэрка Палута Бадунова стварыла дабрачыннае таварыства дапамогі бежанцам ім. Цёткі, а затым у час польскай акупацыі 1919-1920гг, калі быў створаны Нацыянальны Саюз (Хаўрус) беларусак на чале з Верай Маслоўскай. У адной з беларускіх газет жанчыны так вызначылі сваю задачу: " На ўсім свеце будзіцца ад векавечнага сну жанчына і пачынае заваёўваць для сябе належнае ёй паводле справядлівасці месца ў жыцці грамадства і заклікае ўсіх беларускіх жанчын, каб яны выйшлі з цемры зімовага рабскага сну, узбудзіліся, захацелі самі ўсёй душой святла, розуму, ведаў і сапраўднай кіруемай праўдай, дабром і харастовам, волі, якія адны толькі твораць лепшую і трывалую долю народа»…

Паважаныя жанчыны! Тыя, хто стаяў у вытоках сённяшняй волі і раўнапраўя вашага, годныя таго, каб аб іх памятаць.

**На жаль, сёньня Маці Божая Падхорная ў Глыбокім амаль зусім і амаль усімі забытая. Езьдзім з паломніцтвамі ў Будслаў, Вільню, Чэнстахову і іншыя мясьціны, а да сваіх цудадзейных абразоў мы, глыбачане, маліцца ня хочам.**

# *Мястэчка* Глыбокае

■ **Аляксандр Івашчонак,** *бакалаўр гісторыі.*

**Працяг.**
*Пачатак у №4(616) , №5 (617), №6 (618), №7(619), №8(620), №9 (621) за 2012 год.*

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

## Цудадзейны абраз Маці Божай Падхорнай у Глыбокім

Надышоў час распавесьці пра найвялікшую сьвятыню Глыбоцкай зямлі – цудадзейны абраз Маці Божай Шкаплернай, а больш знанай як Падхорнай. Гэта абраз прывезьлі ў мястэчка Глыбокае манахі Кармэліты, якія тут мелі свой кляштар. Адмыслова для гэтага новага абраза ў сярэдзіне XVIII ст. была зробленая капліца. Так як унутраная тэрыторыя ўсяго кляштарнага касьцёла была занятая, таму гэтую новую капліцу размясьцілі пад хорам, адкуль і ўзялася прастанародная назва “Маці Божая Падхорная”, бо абраз знаходзіўся ў капліцы пад хорам.

Варта некалькі слоў распавесьці пра тып абраза МБ Падхорнай. Гэта была копія вельмі папулярнага марыйнага абраза, называнага ў Рэчы Паспалітай Маці Божай Сьнежнай, а ў арыгінале *Salus Popoli Romani (Ocalenie Ludu Rzymskiego* – Ацаленьне (збаўленьне) Рымскага Народу). Сам арыгінал, згодна з хрысьціянскай традыцыяй ,намаляваў апостал Лука, і прадстаўляе ён сабой ікону з выявай Багародзіцы, якая трымае на руках Дзіця Езуса, які ў сваю чаргу трымае ў руках Эвангэлле. Гэты арыгінал знаходзіцца ў адной з 4 галоўных базылік Рыма – Санта Марыя Маджорэ, першай хрысьціянскай сьвятыні ў гонар Багародзіцы, якая была пабудаваная на месцы, дзе летам выпаў сьнег, адсюль і назва – Маці Божая Сьнежная.

Вяртаючыся да нашага абраза, то як ужо было сказана, быў ён XVIII-най копіяй, якую прывезьлі ў Глыбокае Кармэліты. Першапачаткова абраз быў прывезены, каб разьмясьціць яго ў алтары ў гонар Маці Божай Шкаплернай. Гэта алтар МБ Шкаплернай быў закладзены для брацтва МБ Шкаплернай, якое паўстала ў Глыбокім у 1753 г. Таму, каб копія абразу МБ Сьнежнай адпавядала назве алтару МБ Шкаплернай, на гэтай копіі быў дамаляваны шкаплер, які Багародзіца трымала ў руках. Такім чынам абраз МБ Сьнежнай у Глыбокім ператварыўся ў абраз МБ Шкаплернай, аднак звычайны люд даў яму сваю назву МБ Падхорнай.

Абраз МБ Падхорнай знаходзіўся, як было ўжо сказана, у касьцёле Кармэлітаў у капліцы пад хорам. Ужо адразу пасьля свайго з’яўленьня ў Глыбокім, жыхары мястэчка пачалі мець да гэта абраза вялізарнае набажэнства, якое пачало вельмі хутка разьвівацца, дзякуючы дзейнасьці Брацтва МБ Шкаплернай, якія апекаваліся гэтым абразом, а дакладней алтаром, ў якім знаходзіўся гэты абраз. Набажэнства да гэтага абраза ўжо ў хуткім часе ахапіла таксама і мясцовую шляхту, па крысе пачалі арганізоўвацца індывідуальныя, а пасьля і сумесныя паломніцтвы, асабліва на 16 ліпеня – сьвята МБ Шкаплернай. З паломніцтвам да цудадзейнага алтара хадзілі таксама і праваслаўныя вернікі.

Вельмі шмат людзей пачало атрымліваць ласкі і дабрадзействы ад Маці Божай Падхорнай, і такім чынам пачалі з’яўляцца ўсё новыя і новыя



**Перад абразом Маці Божай Падхорнай маліўся Якуб Ясінскі ў часе паўстаньня Т. Касьцюшкі. Перад гэтым абразом маліўся сам Напалеон Банапарт, калі жыў некалькі дзён у глыбоцкім кляштары Кармэлітаў. Менавіта перад гэтым абразом паўстанцы 1831 г. складалі прысягу на вернасьць Айчыне і адраджэньню Рэчы Паспалітае.**

**Цяпер сьвятыня знаходзіцца ў глыбоцкім касьцёле Сьв. Тройцы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

экс-воты ад удзячных веруючых за атрыманыя цуды і ласкі. Таму ўжо ў другой палове XVIII ст. манахі зрабілі з выбеленай медзі адмысловую шату, якаснай работы для гэтага цудадзейнага абраза. Акрамя таго, за яхвяры, складзеныя перад абразом, манахі зрабілі тры срэбныя кароны, дзьве зь якіх былі выкладзеныя дарагімі чэскімі камянямі, а адна, якую трымалі над абразом два анёлы, была пакрытая золатам, гэтыя кароны былі прымацаваныя да абраза разам з шатай.

Акрамя гэтага ўжо пад канец XVIII ст. каля абраза віселі каштоўныя і вельмі каштоўныя экс-воты[1], а менавіта: вялікі залаты пярсьцёнак, вялікі срэбны пярсьцёнак, каштоўны крыж з трыма дыямантамі і шмат розных срэбных экс-вотаў. Вісеў таксама каля абраза, як выраз удзячнасьці і ордэн Белага Арла – найвышэйшая дзяржаўная адзнака ў Рэчы Паспалітай.

Для большай бясьпекі абраз Маці Божай Падхорнай быў закрыты на ноч іншым абразом Маці Божай Балеснай з памерлым Езусам на руках, маляваным на палатне. Перад абразом віселі тры вялікія срэбныя ватыўныя лямпы (лампады). А на сьцяне пры алтары была прымацаваная для пацалаваньня срэбная Ступня Маці Божай, зробленая з ланцужкоў, падараваных веруючымі за атрыманыя ласкі. На гэтай Ступні быў напісаны таксама адпуст дзеля тых, якія цалавалі гэтую Ступню.

На алтары было 5 рэліквярыяў, а сам алтар быў разной работы, драўляны, аздоблены 15 фігурамі анёлаў. Уверсе было напісанае Імя Марыі з 12 зоркамі, усё было пазалочана. Ужо сам факт такой велізарнай лічбы вотаў пад канец XVIII ст. сьведчыць аб вялікай папулярнасьці сярод мясцовага насельніцтва. Гэты культ пачаў усё больш разьвівацца ў XIX ст., у капліцы пачалі з’яўляцца ўсё новыя і новыя экс-воты: каштоўныя дамскія ўпрыгожваньні, бурштын, залатыя і сярэбраныя ланцужкі, розныя пярсьцёнкі, срэбныя таблічкі з выгравіраваным атрыманым цудам і гд. Як бачна, Глыбокае ў першай палове XIX ст. з-за прысутнасьці тут цудадзейнага абраза Маці Божай Падхорнай сталася важным паломніцкім цэнтрам амаль усёй усходняй часткі Віленскай дыяцэзіі. Перад абразом Маці Божай Падхорнай маліўся таксама і Якуб Ясінскі ў часе паўстаньня Т. Касьцюшкі. Перад гэтым абразом маліўся таксама і Напалеон, калі жыў некалькі дзён у глыбоцкім кляштары Кармэлітаў. Менавіта перад гэтым абразом паўстанцы 1831 г. складалі прысягу на вернасьць айчыне і адраджэньне Рэчы Паспалітай.

На жаль ў развіцьці набажэнства да Маці Божай Падхорнай перашкодзіла касацыя кляштара Кармэлітаў ў 1864 г., калі і быў перанесены цудадзейны абраз у парафіяльны касьцёл Сьв. Тройцы. Падчас гэтага пераносу расейскімі салдатамі было ўкрадзена шмат дарагіх вотаў. Пасьля разбудовы касьцёла Сьв. Тройцы (1902-1908 гг.), была зробленая адмысловая капліца Маці Божай Падхорнай, дзе цудадзейны абраз знаходзіцца па сёньняшні дзень.

За польскім часам 1921-1939 гг. адбылося аднаўленьне культу да Маці Божай Падхорнай, арганізаваліся паломніцтвы сумесныя каталікоў і праваслаўных з бліжэйшых вёсак і мястэчак, сталася традыцыяй, што ў сьвята цудадзейнага абраза – 16 ліпеня, глыбачане жаніліся. На жаль у пасьляваенныя часы камуністычнага ваяўнічага атэізму разьвіцьцё культу, як і паломніцтвы, прыпыніліся. На пачатку 90-ых абраз быў аддадзены да рэстаўрацыі ў Мінск. Былі зьнятыя каштоўныя кароны і шаты, а таксама з капліцы былі прынятыя тыя шматлікія экс-воты (уцалелыя па 1864 г., а таксама новыя), якія сьведчылі аб вялізарнай цудадзейнай



**Вельмі стары здымак абраза МБ Падхорнай у шаце («адзеньні»), з каронамі і шматлікімі экс-вотамі.**

**Перапрашаем за якасьць.** *Здымак з архіву аўтара матэрыялу.*

моцы абраза Маці Божай Падхорнай, якая на працягу столькі стагодзьдзяў была ласкавай апякункай Глыбокага. Можа таму, **першая песьня пра Глыбокае** была напісаная ў гонар Маці Божай Падхорнай у другой палове XVIII ст. і на нова падцьверджаная віленскім арцыбіскупам 15 красавіка 1924 г. Ніжэй тэкст песьні:

### Pieśń
### o NMP Podchórnej w Głębockim Obrazie

Jasny luminarz Kościoła
naszego,
Piękna ozdobo Karmelu całego,
Czuła naszych ran lekarko,
Wszelkich łask i cud szafarko –
zawitaj!

Nie tak jest pięknie słońce w
swym splendorze,
Gdy płynie w głębię po
niebieskim torze.
Jak się śliczna pokazała,
Gdy Maryja zajaśniała
w Głębokiem!

O Matko droga, wszyscy
ogłaszają,
Że niezliczonych cudów tu
doznają.
Nikt nie ginie, nikt nie tonie,
Kto w Twej, Maryjo, obronie
zostaje!

O Pani niebios i ziemi Królowa,
Któraś każdemu darować
gotowa!
Błogosław światu całemu,
Podaj opiekę każdemu
w potrzebie!

Jako przy matce zebrana
rodzina,
My u nóg Twoich, o Matko
jedyna,
Ślemy pokorne błagania,
Wysłuchaj dzieci wołania,
Maryjo!

Twój Jezus drogi, Twoje Dziecię
z nieba,
Jest wzorem dla nas, jak Cię
kochać trzeba.
Uproś nam z nieba miłości,
Byśmy Cię tu i w wieczności
wielbili!

Maryjo przez miłość Syna
Twojego,
Uproś nam grzesznym łaski u
Niego,
Wszystko uczyni dla Ciebie
Jezus Chrystus Syn Twój w
niebie swym sługom!
Amen

***Працяг будзе.***







**Здымкі некалькіх экс-вотаў:**

**Злева:** вельмі цікавае экс-вота, якое прадстаўляе МБ Падхорную, XVIII ст.; усярэдзіне – экс-вота з 1831 г.; справа – экс-вота 2-й паловы XVIII ст. *Фота А. Івашчонка.*

[1] Экс-вота – гэта выраз падзякі за атрыманыя ласкі ад цудадзейнага абраза, фігуры, сьвятых, гэты выраз падзякі можа быць розны – каштоўныя камяні, упрыгожваньні, спецыяльна зробленыя срэбныя таблічкі ў выглядзе сэрца, аздароўленых частак цела, напрыклад галавы, ног, вачэй, вушэй і г.д., таблічкі з намаляваным цудам, ці з напісанай ласкай; могуць быць таксама выразам падзякі і ружанцы, кастылі, пратэзы і іншыя рэчы (як у Чэнстахове).



# Віншаванкі

## Дар'ю Дубіна

(в. Кішы)

**Віншуем з нагоды Дня нараджэння**



Мы желаем от души,
Чтобы будущие годы
Были также хороши,
Чтобы счастье и здоровье
Непременно рядом шли,
Чтобы месяцы и годы
Только радость вам несли!

*Мама, бацька, бабуля Таня*

**Дарагую бабулю**

## Тамару Адамовіч

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Бабушка славная, незаменимая,
С Днём рожденья тебя поздравляем,
Всяческих благ в твоей жизни желаем.
Чтобы ты никогда не болела,
Чтобы ты никогда не старела,
Чтобы вечно была ты для нас молодой,
Весёлой, доброй и нужной такой.



*Унучка Анастасія.*

**Дарагую бабулю**

## Тамару Адамовіч

**Віншуем з 8 Сакавіка!**

От всего сердца Вам желаем
Пусть жизнь Ваша будет светла,
Пусть розами будет усеян
Ваш жизненный путь до конца.
Желаем правды, счастья, доброты,
Необыкновенности и сбывшейся мечты.
Желаем света, желаем звезд,
Желаем смеха и счастливых слез.



*Унукі Антон і Анастасія*

## Дарагіх жанчын

## Віншуем са святам 8 сакавіка!

Есть много праздников в стране,
Но женский день отдан Весне,
Ведь только женщинам подвластно
Создать весенний праздник - лаской.
Так будьте добрыми, простыми,
Всегда с улыбкой на лице!
Ну, словом, будьте Вы такими,
Как подобает быть Весне!
Вы рядом с нами на работе,
Хотя домашние заботы
Порой на Вас еще лежат,
Мы, вся мужская половина,
Простить сегодня просим нас
За то, что часто мы, мужчины,
Шумим и спорим без причины,
Напрасно раздражая Вас.
Давайте навсегда решим:
Сегодня, завтра и в дальнейшем,
Мужчины, берегите женщин,
Чтоб сберегли они мужчин!



*Мужчыны "ВГ".*

# А ці вартыя тры шчупакі такіх грошай!

■ **А.В. Протас**, *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**У Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету працягваюць паступаць званкі ад рыбаловаў аматараў, якіх цікавіць пытанне: ці падоўжаны тэрміны лоўлі шчупака.**

Паводле Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення рыбы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа ўсталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўлі асобных відаў рыбы.

Правілы рыбалоўства прадугледжваюць забарону на лоўлю шчупака звычайнага з 1 па 31 сакавіка, аднак якіх небудзь падаўжэнняў тэрмінаў лоўлі шчупака сёлета не ўсталявана. У сакавіку месяцы настае апошняя стадыя актыўнага развіцця ікры, і неабходна забяспечыць магчымасць для шчупака спакойна падрыхтавацца да нерасту, (лоўля шчупака забаронена).

Таму ўсім рыбаловам неабходна ў выпадку здабычы шчупака адпускаць злоўленую рыбу. За парушэнне Правілаў і ўсталяваных абмежаванняў на лоўлю шчупака з 1 па 31 сакавіка прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па ч.1 арт. 15.35. Ко АП Рэспублікі Беларусь у выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь з пакрыццём 3-х кратнага кошту прычыненага ўрону. (За кожную адзінку незаконна вылаўленага шчупака ўрон складае 105 тысяч рублёў плюс вага рыбы)

Шмат пісалася пра забарону на лоўлю шчупака, аднак усё адно знаходзяцца людзі, для якіх яе не існуе.

Так, 3 сакавіка 2012 года супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Ксяндзова Глыбоцкага раёна затрыманы жыхар г.п. Падсвілле грамадзянін М., які ў перыяд забароны здабыў 3 (тры) асобіны шчупака. У адносінах парушальніка складзены адміністрацыйны пратакол, які накіраваны ў раённы суд. Незаконна злоўленыя шчупакі абыдуцца грамадзяніну М. прынамсі ў 700 тысяч рублёў. Слушна паўстае пытанне, а ці вартыя тры шчупакі такіх грошай, падумайце, перш чым парушаць.

Вельмі востра стаіць пытанне аб набыцці платных пуцёвак на рыбалку, на арандаваных вадаёмах для платнага аматарскага рыбалоўства. Пуцёўкі набываць абавязкова! Гэта азёры: Чачалі, Свядава, Бярозаўскае, Карпікі, Гулідаўскае, Ластавіцкае, Крывое-1, вадасховішча «Азерцы». На дадзеных вадаёмах набыццё пуцёўкі абавязкова, пры адсутнасці пуцёўкі, дзеянні грамадзян будуць расцэньвацца як браканьерства. Штраф ад 10 да 50 базавых велічынь.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі папярэджваюць прагных грамадзян, што ў выпадку выяўлення фактаў здабычы рыбы забароненымі спосабамі, прыладамі ці рыбы, якая не дасягнула прамысловай меры, парушальнікі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай, а магчыма і крымінальнай адказнасці.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў навядзенні парадку на вадаёмах і лясах нашага раёна.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 2-86-70 ці маб. 897-23-02; 890-55-28; 249-45-49.

# Перамагла каманда лыжнікаў райвыканкама

■ **Яўген Самсонаў**

**Ва ўрочышчы Барок 4 сакавіка праходзіў апошні від зімовых спартыўных спаборніцтваў у праграме працоўнай Спартакіяды – лыжныя гонкі.**

Заяўкі на ўдзел у спаборніцтвах падалі 12 каманд. Склад каманды 4 чалавекі – 2 мужчыны і 2 жанчыны.

Сярод жанчын перамагла з вялікай перавагай Алена Вязьмінава, якая выступала за райвыканкам. На другім месцы прадстаўніца мясакамбіната Надзея Шарабайка. Вольга Какорка – райвыканкам- на трэцім месцы.

Сярод мужчын барацьба была ўпартай. З агульнай кагорты ўдзельнікаў дзесьці дзясятак выступае на ўзроўні майстроў спорту і КМС. Але, тым не менш, першым на дыстанцыі ў пяць кіламетраў упэўнена фінішыраваў Леанід Корнышаў – ЖКГ. Прадстаўнікі ВК-13 Аляксандр Плыгаўка і Сяргей Драгун з аднолькавым часам падзялілі 2 і 3 месца.

У камандным заліку пераможцам стала каманда райвыканкама. Мясакамбінатаўцы заваявалі другое месца. На трэцім месцы камунальнікі.



Каманда лыжнікаў Глыбоцкай ЖКГ.



На лыжнай трасе А. Вязьменава.

## МНС інфармуе на 06.03.2012 года:

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 295;
Гібель людзей – 47, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 1535,4 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 19;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 113 550 000 руб.

## Сярэдні заробак у Літве — 630 еўра, у Эстоніі — €865

У чацвёртым квартале 2011 года, у параўнанні з аналагічным перыядам 2010-га, сярэдні брута-заробак (да вылічэння падаткаў) у Эстоніі вырас болей, чым у Латвіі і Літве, паведамілі ў Цэнтральным статыстычным упраўленні Эстоніі.

У Эстоніі ён павысіўся на 6,3%, у Латвіі — на 4,5%, у Літве — на 2,5%.

У чацвёртым квартале 2011 года самы высокі ў краінах Балтыі брута-заробак папярэйшаму быў у Эстоніі — 865 еўра ў месяц. У Латвіі ён склаў 676 еўра, у Літве — 630 еўра.

У Беларусі, калі верыць звесткам Белстата, сярэдні заробак у студзені 2012 года «бруднымі» складае каля 270 еўра (2 млн 870 тыс. рублёў).

*delfi.lt*

